Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №1(79), люты, 2013г.



# АБРАНЫ СТАРШЫНЯ АБЛАСНОЙ РАДЫ ПАРТЫІ БНФ

**Новым абласным старшынём партыі БНФ абраны Леанід Аўтухоў.**

15 сьнежня ў Віцебску праходзіла справаздачна-выбарная абласная канфэрэнцыя партыі БНФ. Удзельнікі канфэрэнцыі заслухалі справаздачу старшыні абласной арганізацыі партыі **Канстанціна Смолікава**, які распавёў пра дзейнасьць арганізацыі цягам апошніх двух гадоў. У дыскусіі, што разгарэлася пасьля выступу спадара Смолікава, абмяркоўвалася тэма ўдзелу ў выбарах, закраналіся праблемы зьмяншэньня колькасьці сяброў партыі і павышэння ўплыву яе на грамадзтва.

Абласная канфэрэнцыя абрала новае партыйнае кіраўніцтва. У склад рады абласной арганізацыі партыі ўвайшло 9 сяброў з розных рэгіёнаў Віцебскай вобласьці. Новым абласным кіраўніком БНФ быў абраны Леанід Аўтухоў.

На абласной канфэрэнцыі прысутнічаў старшыня партыі БНФ **Аляксей Янукевіч.**

http://vitebskspring.org/be/news/1217



# РЫХТУЕМСЯ ДА МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ

**11 лютага 2013 года адбылося чарговае паседжаньне Рады Віцебскай гарадзкой арганізацыі Партыі БНФ.**

Як паведаміў старшыня арганізацыі **Аляксандр Кузьняцоў**, было вырашана распачаць складаньне сьпісаў кандыдатаў ад Партыі БНФ на мясцовыя выбары. Выбары дэпутатаў мясцовых саветаў дваццаць сёмага скліканьня павінныя адбыцца ў першым квартале 2014 году.

- Мы абмеркавалі неабходнасьць вылучыць кандыдатаў ад Партыі БНФ на ўсіх выбарчых акругах: на выбарах у Віцебскі абласны савет іх 60, на выбарах у Віцебскі гарадзкі савет – 40. Сама перадвыбарчая кампанія хутчэй за ўсё распачнецца напрыканцы году, але вызначацца з кандыдатамі, абмяркоўваць і складаць праграмы, пачынаць працу з выбаршчыкамі неабходна не за месяц, – паведаміў Аляксандр Кузьняцоў.

У часе паседжаньня быў абмеркаваны таксама і фармат сьвяткаваньня Дня Волі ў Віцебску. Паводле словаў Леаніда Аўтухова, зараз адбываецца ўзгадненьне з мясцовымі камунальнымі службамі, прадстаўнікамі аховы парадку, пасьля якога будзе пададзеная заяўка на правядзеньне вулічнай акцыі.

Як паведамляюць ва Ўправе Партыі БНФ, цяпер рыхтуецца канцэпцыя дзеяньняў партыі ва ўмовах будучых мясцовых выбараў. Удзел у выбарчай кампаніі па выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў разглядаецца Партыяй БНФ як чарговы этап падрыхтоўкі да прэзідэнцкіх выбараў 2015 году.

# ТОЛЬКІ ПАДЧАС ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

**У этэр Віцебскай дзяржтэлерадыёкампаніі прадстаўнікоў БНФ не запросяць.**

На пачатку студзеня старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Леанід Аўтухоў зьвярнуўся на мясцовае тэлебачаньне з прапановай стварыць новую палітычную праграму і запрашаць туды прадстаўнікоў зарэгістраваных палітычных партыяў да ўдзелу ў дыскусіях, альбо даваць час у этэры ва ўжо інсуючых палітычна-грамадзкіх перадачах.

- Як даносіць ідэі партыі, калі немагчыма прабіцца на тэлебачаньне? Як папулярызаваць партыю, далучаць новых сяброў? Як паказваць альтэрнатыву? Вось таму і вырашыў зьвярнуцца з прапановай на мясцовае тэлебачаньне. Тым больш, хутка нас чакаюць мясцовыя выбары. Аднак, адказ не асабліва парадаваў, – распавёў Леанід Аўтухоў.

На свой зварот Аўтухоў атрымаў адказ за подпісам дырэктара Віцебскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі **Камовіча Анатоля Валер'евіча**, у якім выказваецца падзяка за заўвагі да зьместу перадачаў кампаніі, а таксама пазначаецца, што на год усе праграмы сфармаваныя і зацьверджаныя. Паводле словаў Камовіча, дзяржтэлерадыёкампанія знаходзіцца на поўным самафінансаваньні, і грошай на стварэньне сёлета новых перадачаў няма.

– У адказе пазначылі, што сёлета новых праграмаў не з'явіцца праз недахоп грошай, а вось у наступным годзе цалкам магчымы разгляд новых фарматаў. Час пакажа, ці што зьменіцца, тым больш, што па нашых дадзеных, дэбаты кандыдатаў на апошніх выбарах паглядзела вельмі шмат жыхароў вобласці, гэтую практыку трэба працягнуць.– адзначыў старшыня Віцебскай суполкі Партыі БНФ.

Maгістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 380-13-75,
713-22-00, 118-92-38,
711-24-47, 711-08-98,
651-32-53, 517-32-53,
36-18-47, 27-23-39,
23-59-63, 37-27-39.




адрас: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035

E-mail: kas_vit@tut.by

WWW.NARODNY.ORG

# УЗБУДЖАНАЯ КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА

**Па факце зьбіцьця віцебскага актывіста БНФ узбуджаная крымінальная справа.**

Пракурор Першамайскага раёну Віцебску старшы дарадца юстыцыі **Юры Раманоўскі**, разгледзеўшы матэрыялы праверкі па факце прычыненьня цялесных пашкоджаньняў сябру партыі БНФ **Аляксею Гудзіліну**, прыняў пастанову аб узбуджэньні крымінальнай справы паводле артыкулу 153 КК. Такая пастанова была прынятая пасьля заявы ў пракуратуру Віцебскай вобласьці старшыні віцебскай абласной рады партыі БНФ Леаніда Аўтухова з просьбай да пракурора ўзяць пад асабісты кантроль бесстароннасьць, апэратыўнасьць, паўнату і выніковасьць сьледчавышуковых мерапрыемстваў праваахоўных органаў па выяўленьні і прыцягненьні да адказнасьці вінаватых.



Нагадаем, сябра партыі БНФ Аляксей Гудзілін быў зьбіты 14 сьнежня 2012 году. На яго напалі двое невядомых мужчын магутнага целаскладу, якія вонкава і паводзінамі нагадвалі супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Адзін зь іх мімаходзь паказаў нейкі дакумэнт, падобны да пасьведчаньня праваахоўніка. Невядомыя сілай узялі актывіста пад рукі, падвялі да машыны, прымусілі сесьці ў салён, а самі разьмясьціліся па абодва бакі ад яго. У машыне таксама знаходзіўся кіроўца.

На пытаньні хлопца, што адбываецца, быў адказ: «Не хадзі ў БНФ і не займайся тымі рэчамі, што цябе ня тычацца, а то лезеш і ў тэлевізар, і ў газэты…» Пасьля гэтага той, хто сядзеў праваруч, двойчы ўдарыў актывіста кулаком у твар. З носа пацякла кроў. Зьбітага маладога чалавека нападнікі выкінулі з машыны, а самі зьніклі ў невядомым напрамку. У той самы дзень «Хуткая дапамога» даставіла Аляксея Гудзіліна ў абласны шпіталь, дзе лекарамі быў выстаўлены дыягназ «Закрыты пералом костак носу».

Як адзначаецца ў пастанове пракурора, справы наконт злачынстваў, прадугледжаных артыкулам 153 Крымінальнага кодэксу (наўмыснае прычыненьне лёгкага цялеснага пашкоджаньня), зьяўляюцца справамі прыватнага абвінавачаньня і ўзбуджаюцца асобамі, што пацярпелі ад злачынства. Аднак пракурор мае права таксама ўзбуджаць такога кшталту справы, нават пры адсутнасьці заявы пацярпелага, калі дзеяньні вінаватай асобы закранаюць істотныя інтарэсы дзяржавы і грамадзтва, законныя інтарэсы грамадзян. Менавіта з гэтага свайго права і скарыстаўся пракурор Юры Раманоўскі. Крымінальная справа для далейшага расьсьледаваньня накіраваная ў Першамайскі райаддзел Віцебску Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь.

vitebskspring.org

# АДЗНАЧЫЦЬ ДЗЕНЬ ВОЛІ РАЗАМ

**У Віцебску створаны каардынацыйны камітэт па супольным сьвяткаваньні Дня Волі 25 сакавіка ў 2013 годзе.** У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі большасьці апазыцыйных палітычных сіл, што дзейнічаюць на тэрыторыі вобласьці: Партыі БНФ, Руха «За свабоду», Аб'яднанай грамадзянскай партыі, аргкамітэтаў па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і незарэгістраваная БСДП (Народная Грамада). Старшынём абраны Леанід Аўтухоў, кіраўнік абласной арганізацыі партыі БНФ.

Удзельнікі кааліцыі прынялі рашэньне ў Дзень Волі зладзіць мітынг. Адпаведная заяўка на яго правядзеньне будзе па-дадзеная ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну Віцебску. Мітынг мусіць адбыцца ў месцы, адведзеным уладамі пад масавыя мерапрыемствы, – у парку чыгуначнікаў, побач са стадыёнам «Лякаматыў». Мяркуецца, што ў акцыі возьмуць удзел дзясяткі жыхароў Віцебску. Пачалася праца па апавяшчэньню актывістаў пра маючае адбыцца мерапрыемства.

# ВЫСТАВУ ПРЫСВЯЦІЛІ ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

**26 снежня ў Віцебскім музеі мастацтва адчынілася выстава, прысвечаная памяці сусветна вядомага пісьменніка Васіля Быкава. Яна з'вілася вынікам працы мастакоў, якія прадстаўлялі амаль усе рэгіёны краіны.**

Імпрэза пачалася з выступу **Вольгі Іванаўны Акуневіч**, дырэктара музея мастацтва, якая распавяла прысутным (а іх было сотні паўтары, а можа і больш) аб значэнні Васіля Уладзіміравіча ў беларускім мастацтве. Яна высока ацаніла мастацкія працы, прадстаўленыя на выставе.

Аб натхняючай сіле быкаўскага таленту выказаліся мастакі, удзельнікі драздовіцкага пленэру, які праходзіў у жніўні ў Бычках і быў прысвечаны



любімаму пісьменніку, – **Святлана Баранкоўская, Чэслаў Шамшур, Уладзімір Вальноў, Міхась Цыбульскі, Алесь Саўчанка.** Шмат было партрэтаў пісьменніка. І кожны з іх па-свойму падаваў асобу Быкава. З вялікім мастацкім густам былі прадстаўлены родныя быкаўскія мясціны, яго сваякі.

Упрыгожылі свята і лепельскія музыкі пад кіраўніцтвам таленавітага музыкі і арганізатара **Васіля Шкіндзера.** Дзяўчаты з вакальнага гурта "Поўнач" праспявалі народныя песні і арганізавалі



старадаўнія танцы пад дуду і бубен. Тут і лянівы ўстаяць не мог. У скокі пусціліся і старыя, і маладыя. Такой весялосці на выставах мне не даводзілася бачыць.

Развіваючыся, наведвальнікі дзякавалі нам і казалі, што такой выставы і такога адкрыцця яшчэ не было. Гэта і ёсць вышэйшая ацэнка нашай дзейнасці. Пасля такога хочацца жыць і працаваць яшчэ лепш.

Ада Райчонак

# УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ ПРЭЗЭНТАВАЎ НОВЫЯ КНІГІ

**Уладзімер Арлоў прэзэнтаваў у Віцебску свае кнігі «Сьвецяцца вокны, ды нікога за імі», «Пакуль ляціць страла», «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя», «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя», а таксама аўдыёвэрсію кнігі «Імёны Свабоды».**

На сустрэчу зь пісьменьнікам, што ладзілася ў Віцебскай абласной бібліятэцы 7 лютага, прыйшло больш за 100 чалавек – мясцовых літаратараў, студэнтаў, настаўнікаў, грамадзкіх і палітычных актывістаў. Імпрэза адбывалася ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!».




На пачатку творчай сустрэчы аўтар кнігі «Пакуль ляціць страла» прапанаваў прысутным паўдзельнічаць у своеасаблівай віктарыне паводле гэтай кнігі. Пераможцы атрымалі прызы. Не на ўсе пытаньні, зададзеныя пісьменьнікам, віцебскія аматары літаратуры змаглі даць адказы. Гэта таму, што ў Віцебску яшчэ мала хто прачытаў «Стралу», бо кніга толькі цяпер «даехала» да гораду над Дзьвіной, – зрабіў выснову пісьменьнік.

Уладзімер Арлоў прысьвяціў сваю сустрэчу з чытачамі 150-годзьдзю паўстаньня **Кастуся Каліноўскага.** Ён перадаў у залю стос чыстых аркушаў: «Гэтыя аркушы – прыкладна такога самага памеру, якога былі кавалкі паперы, на якіх Каліноўскі пісаў Лісты з-пад шыбеніцы. Вы можаце напісаць на іх свае пытаньні мне, той самай мовай, якой пісаў Кастусь Каліноўскі».

Пытаньні да пісьменьніка былі самыя разнастайныя – наконт яго асабістага жыцьця, творчых плянаў, гісторыі, культуры. Адказы Ўладзімера Арлова ўражвалі слухачоў сваёй трапнасьцю і дасьціпнасьцю. Напрыканцы імпрэзы яе наведвальнікі пачулі некалькі вершаў са зборніка «Сьвецяцца вокны» ў аўтарскім чытаньні, а завяршылася сустрэча зь пісьменьнікам аўтограф-сэсіяй.

# ВІЦЕБСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ – У АБАРОНУ ГІСТАРЫЧНАГА ЦЭНТРА

17 студзеня Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ за подпісам кіраўніка арганізацыі **Леаніда Аўтухова** накіравала пракурору Чыгуначнага раёна горада Віцебска скаргу на дзеянні галоўнага архітэктара Віцебска **Віталя Дубіка**.

У заяве гаворыцца, што галоўны архітэктар горада нахабна ігнаруе ўмовы аховы гістарычнага цэнтра горада, у прыватнасці, ён даў дазвол на праектаванне палаца ўрачыстасцяў на тэрыторыі былога Ніжняга замка. Адзначаецца, што планы па аднаўленні і новаму будаўніцтву будынкаў у ахоўным цэнтры Віцебска не выносяцца на шырокае абмеркаванне грамадскасці, а вырашаюцца кулуарна, пры гэтым груба парушаецца закон.

Пракурора просяць праверыць ўсе аб'екты новага будаўніцтва ў гістарычным цэнтры Віцебска на адпаведнасць заканадаўству і паведаміць аб выяўленых парушэннях і прынятых мерах.



ПАРТЫЯ БНФ
ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

# ЖУРНАЛІСТЫ ВЫЗНАЧАЛІ ЎЗРОВЕНЬ ВАЛОДАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ЖЫХАРОЎ ШУМІЛІНА

**Былі апытаныя 50 чалавек ва ўзросце ад 9 да 60 год. Вынікі апытання паказалі, што шумілінцы не разумеюць значэння многіх беларускіх словаў. Але ў каментарах да артыкулу, дзе апавядаецца пра эксперымент, землякі шкадуюць, што не ведаюць родную мову дасканала.**

"Мы прапанавалі выпадковым людзям перакласці на рускую мову наступныя словы: патэльня, дыван, абрус, разынка, аматар, ануча, засмучаны, чырвоны, злучнік, зязюля, кава, казуля, клопат, ныркі, алей, сняданак, высвятляць, арэлі, страхар, выбух, канапа, сукенка, панчохі", піша шумілінская раённая газета **"Герой працы"**.

Дарэчы, у тым самым артыкуле гаворыцца: "Неяк не хочацца думаць пра тое, што, пагнаўшыся за тыражом, калектыў рэдакцыі "Герой працы" пяройдзе на рускую мову, як зрабілі гэта многія раённыя газеты. Варта заўважыць, што тыражу такі ход не дабаўляе, а калі ёсць магчымасць у кожнага асобна ўзятага журналіста берагчы, папулярызаваць беларускае слова, то ён проста абавязаны гэта рабіць. А выпадкі, калі носьбітам роднай мовы пачынаюць навешваць ярлыкі, тыпу: ты што – з БНФ, проста абражаюць".

Высновы ж, зробленыя паводле апытання землякоў-шумілінцаў, аказаліся наступныя: людзі старэйшага пакалення мову ведаюць, ведаюць, што страхар – гэта "кровельщик", а разынка – "изюм". А вось тыя, каму ад 9-ці да 25-ці мовы не ведаюць зусім. Некаторыя змаглі перакласці толькі тры – пяць слоў з прапанаванага спісу, ды і тое з памылкамі.

Вывучэнне беларускай мовы ў школе скарацілася да абразлівага мінімуму. Мамы расказваюць, што родную мову вывучаюць са сваімі малымі гэтак жа, як і замежную: словы завучваюць на памяць. Бывае, дзеці кажуць і такое, што настаўнік беларускую мову выкладае на рускай.

Гэтае паказальнае апытанне ў які раз сведчыць пра моўную дыскрымінацыю так званай «тытульнай» нацыі, тых, хто завецца беларусамі і думае й размаўляе на беларускай мове. Жахліва і прыкра, а становішча ўсё пагаршаецца.

# У ВІЦЕБСКУ ЧЫТАЛІ ВЕРШЫ КАРАТКЕВІЧА

**Увечары 26 лістапада сябры віцебскай арганізацыі партыі БНФ прыйшлі да помніка Уладзіміру Караткевічу каб ускласці кветкі ў дзень нараджэння знакамітага сына беларускай зямлі.**

Каля 15 сябраў партыі БНФ прыйшлі да помніка Ул.Караткевічу. На знак пашаны былі пакладзены букеты да помніка, прачытаныя каля дзясятка вершаў, адбылася невялічкая дыскусія пра сёняшнія віцебскія і аршанскія падзеі.

Не абышлося без ветлівага супрацоўніка міліцыі, які папярэдзіў пра недазволены характар мерапрыемства і прапанаваў прысутным разысціся і невядомых "гражданскіх" з відэакамерай, якія моўчкі слухалі вершы і ўважліва сачылі за тым, што адбываецца. Да віцебскіх аднапартыйцаў далучыўся і намеснік старшыні партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, які прыняў актыўны ўдзел у падзеях.

